Беларуская газета

sumezha

# СУМЕЖЖА

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...
Я.КУПАЛА



№14-15 (99) Заснавана ў 1991 годзе. Снежань 2000 г.

## Прадпрымальнікі настроены рашуча

У чацвер 23 лістапада буйнейшыя рынкі вялікіх гарадоў краіны былі пустыя. У Паставах, як вядома, на гэтых днях кірмашы не адбываюцца, а вось у гарпасёлку Варапаева аднадзённую папераджальную забастоўку не ўсе гандляры падтрымалі. Праўда, у гэты час у райцэнтры, спужаўшыся прыезду камісіі дзяржкантролю, большасць прыватных крамаў былі зачыненыя. Аднак праблема мытнага афармлення тавараў, дастаўленых у Беларусь з Расіі, застаецца вострай. Уплата такіх пошлін можа збанкруціць як саміх "чаўнакоў", так і істотна аблегчыць кашалькі людзей, бо кошт тавараў узрасце.Здзіўляе іншае, як асобныя прадпрымальнікі не разумеюць, што трэба дзейнічаць усім разам. Да таго ж варта паспрабаваць дабіцца зніжэння арэнднай платы, фіксаваных ставак падаткаў, адмены канфіскацыі тавараў. У выпадку дрэннага развіцця сітуацыі гандляры пагражаюць бестэрміновым страйкам з пачатку 2001 года.

## Сумніўнае лідэрства

Сапраўдным злом нашых дзён становяцца крадзяжы. Сёння ніхто не можа спаць спакойна, бо сярод ночы і нават днём могуць залезці ў дом, склеп, гараж, каб нечым пажывіцца. Звычайна потым грошы ідуць на апахмелку. І на гэтым фоне "вызначыўся" наш раён, дзе ўдзельная вага злачыннасці пасля ўжывання спіртовых напояў дасягнула з пачатку года 44,8 %. Такіх высокіх лічбаў не мае ніводзін раён вобласці. Сёння алкагольныя напоі безпраблемна можна набыць ледзь не круглыя суткі. Звычайна, у нераўнадушных да "зялёнага змія" грошай небагата, а часта і зусім няма, а выпіць хочацца. Вось і знікаюць з панадворкаў людзей куры і іншая жыўнасць, любыя каштоўныя рэчы, каб пасля выпіўкі "загрымець" на нары.



Фота А. Лабады

## ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ХРОНІКІ

## Засмуцілі спявачку

Хоць і не так часта, але знакамітыя артысты беларускай эстрады, цыркавыя калектывы, іншыя выканаўцы зрэдку прыязджаюць з гастролямі ў наш горад. Апраўдала чаканні пастаўчан і салістка Белдзяржфілармоніі, лаўрэат розных музычных конкурсаў і фестываляў Іна Афанасьева. Зала Дома культуры па вуліцы Станкевіча была амаль запоўненая, нягледзячы на кошт квіткоў у 3000 рублёў. Больш чым двухгадзінны канцэрт неаднаразова прыпыняўся гарачымі апладысментамі, ды і сама спявачка выкладвалася да канца, без фанаграмы. Нягледзячы на цёплы прыём, так і не падаравалі пастаўчане (а на канцэрце было шмат заможных гараджан) сімпатычнай артыстцы ніводнай кветачкі. Няўжо ў людзей так стала дрэнна з фінансамі, каб супольна зрабіць прыемнае чалавеку, які падараваў цудоўны вечар сотням гледачоў.

## Патэлефанаваць у Стамбул? Без праблем

Нарэшце тэхнічны прагрэс дайшоў у кватэру любога пастаўчаніна, які мае тэлефонны апарат. Пачынаючы з 1 снежня для абанентаў раёна адкрыты аўтаматычны набор усіх краін свету без дапамогі тэлефаністак. Яшчэ год назад, не выходзячы з кватэры, можна было самому патэ-

лефанаваць у Польшчу, Чэхію, Германію і яшчэ 18 дзяржаў Еўропы. За год за тры этапы да гэтага спісу дабавіліся яшчэ больш 150 краін усіх пяці кантынентаў. Для званка ў патрэбную далёкую краіну трэба паслядоўна набраць : 8 (гудок) – 10 – код краіны – код населенага пункта і нумар абанента. Вядома, мець дастаткова грошай, каб потым разлічыцца за паслугі. Зрэшты, гэтая навіна толькі засмуціць больш 1700 жыхароў раёна, якія гадамі чакаюць сваёй чаргі на ўстаноўку тэлефона, каб дазваніцца ў бліжэйшую вёску, не гаворачы ўжо пра далёкае замежжа.

## Еўропа ставіць бар'еры

Калі патэлефанаваць родным і блізкім за мяжой стала магчыма, то наведацца да іх у госці, або на адпачынак у новым годзе стане праблематычней. Адразу некалькі еўрапейскіх дзяржаў аб'явілі аб намеры ўвесці для грамадзян Беларусі візавы рэжым. Сярод іх Венгрыя, Славакія і, што найбольш засмуціла пастаўчан, наша бліжэйшая суседка Польшча. У апошняй краіне, бадай, у паловы жыхароў раёна жывуць родныя, або добрыя знаёмыя. Праўда, палякі пакуль адцягваюць вырашэнне гэтага пытання на канец 2001 года. Магчыма, урадавым дэлегацыям абедзьвюх краін удасца дамовіцца аб спрашчэнні працэдуры перасячэння дзяржмяжы грамадзянамі. Турбуе, што суседзі, якія пайшлі на Захад, не маюць зусім гэтых праблем. Але беларусы выбралі сабе іншы шлях, а палітыка кіраўніка краіны прывяла да паступовай ізаляцыі ад цывілізаванага свету.

## А губернатар не прыехаў

Надта спадзяваліся ў Дунілавіцкай сярэдняй школе, што прыезд у вёску кіраўніка вобласці Уладзіміра Андрэйчанкі дапаможа высветліць усе пытанні наконт будаўніцтва новага школьнага будынка. Да прыезду высокага начальніка калідоры і класы вылізалі – вычысцілі да блеску, хоць жартаўнікі прапаноўвалі паставіць у памяшканні падпоркі. Як вядома, меркавалася сёлета за сродкі абласнога бюджэта актыўна весці будаўніцтва новай школы на 264 месцы і завяршыць летам наступнага года. У старым памяшканні цесна, заняткі ў дзве змены,а перакрыцці і столь месцамі ў аварыйным стане. Аднак Андрэйчанка на Пастаўшчыну не прыехаў, чым настроіў педагогаў на сумны лад. Дарэчы, толькі днямі будаўнікі здалі ў эксплуатацыю трохпавярховы будынак школы ў вёсцы Шпакоўшчына Полацкага раёна. Адзінай на ўсю вобласць за 2000 год. Для параўнання, летась у вобласці пабудавалі толькі тры новыя школы, а праблема ў Дунілавічах са школьным памяшканнем існуе ўжо каля трыццаці гадоў.

## Блакітнае паліва прыйдзе да нас?

Да радасці людзей пасля некаторых перабояў з газам у балонах, сітуацыя з іх забеспячэннем насельніцтва нармалізавалася. Бедных, праўда, турбуе кошт яго ў 1252 рублі за балон. Але ж гэта кошт нават меньшы кілаграма селядцоў. Каб прымусіць насельніцтва эканоміць блакітнае паліва, ужо зараз канцэрн "Белпалівагаз" плануе з новага года істотна павысіць тарыфы і ўвесці больш жорсткія нормы спажывання. Для нас можа быць адзіная радасць, што праз тры-чатыры гады прыродны газ прыйдзе ў Паставы. Зараз рыхтуюцца да пераводу спажыўцоў на гэты від паліва, якое паступіць па трубаправоду, у Бешанковічах, Сянно, гарпасёлку Обаль. Калі хопіць сродкаў на гэтую дарагакаштоўную праграму, прасцей стане забяспечваць цяплом і гарачай вадой гараджан асноўным кацельням у Паставах.

## Пачатак абнадзейвае

Пасля працяглага перапынку зноў вялікі валейбол прыйшоў у Паставы. Двума матчамі ў родным горадзе з камандай "Тэхнапрыбор – 2" з Касцюковічаў валейбалісты "Дынама" распачалі гульні ў X чэмпіянаце Беларусі сярод калектываў 1-й лігі. Нейкая барацьба праглядвалася толькі на пачатку сустрэч, а ў далейшым сказаўся больш высокі клас і вопыт нашых землякоў, якія выйшлі на пляцоўку ў новенькай форме. Абедзьве сустрэчы пастаўчане выйгралі з аднолькавым лікам 3:0 па партыях. Пасля выязных гульняў у Гродне і Мінску дынамаўцаў мы ўбачым у справе 27 – 28 студзеня наступнага года, калі яны памерацца сіламі з валейбалістамі Оршы. Калектыву па свайму патэнцыялу і сёлета магчыма быць сярод прызёраў першынства.

## Павышэнне па службе

Як і чакалася, без асаблівых узрушэнняў прайшло размеркаванне начальніцкіх партфеляў у новаабраным беларускім "парламенце". Найбольш "вызначыліся" пры размеркаванні высокіх пасад прадстаўнікі Магілёўшчыны, чые дэпутаты былі абраныя выключна старшынямі і іх намеснікамі ў пастаянных камісіях Палаты прадстаўнікоў. Пасланцам нашай вобласці дасталіся чатыры ганаровыя месцы на чале камісій. У прыватнасці, кіраваць адной з іх – па аграрных пытаннях будзе вядомы на Пастаўшчыне Аляксандр Азарчанкаў. Раней проста радавы дэпутат з вопытам працы ад Пастаўскай выбарчай акругі Пётр Розынка таксама ўвайшоў у яе склад і ў адрозненне ад многіх сваіх калег даўна вызначыўся, чым будзе займацца. Аднак зараз былы старшыня калгаса імя Мічурына пайшоў на павышэнне і абраны намеснікам старшыні камісіі па аграрных пытанняхю Зрэшты, у ёй толькі пяць парламентарыяў, а Азарчанкаву прызначылі адразу траіх намеснікаў і толькі аднаго простага дэпутата.

## Саўгас ліквідуецца?

Яшчэ амаль тры гады назад А.Лукашэнка неяк абмовіўся, што

прыйшла пара вырашаць лёс адстаючых гаспадарак. І вось толькі зараз па гарпасёлку Варапаева пайшлі сумныя размовы аб ліквідацыі аднайменнага саўгаса. У райсельгасхарчы нам паведамілі, што сапраўды, разглядаюцца розныя варыянты наконт далейшага лёсу той сотні працаўнікоў, што проста мучыліся ў абяднеўшым калектыве. З саўгаса "Варапаева" дагэтуль усе, хто здолеў, збеглі, куды вочы глядзяць. Пакуль неафіцыйна вядома, што саўгас проста ліквідуюць, як суб'екта гаспадарання, а ягоныя землі па частках разбяруць калгасы-суседзі і саўгас "Старадворскі". Па ранейшай схеме меркавалася, што горад возьмецца падымаць такія слабыя сельгаспрадпрыемствы. Але ў пасёлку вытворцы – ДАК і завод ЖБВ самі ледзь дыхаюць. Не прыходзіцца сумнявацца, што нядоўга засталося мучыцца і іншым банкротам на вёсцы.

## Яшчэ адзін зямляк-міністр

Неадназначную рэакцыю ў калектыве Міністэрства замежных спраў выклікала прызначэнне міністрам знешнепалітычнага ведамства нашага земляка, ураджэнца вёскі Казлоўшчына Міхаіла Хвастова. Дыпламаты чакалі, што гэту пасаду зойме першы намеснік Сяргей Мартынаў. Але вядома, што беларускі «бацька»"пры назначэнні кадраў разглядае адразу пяць-шэсць прэтэндэнтаў на канкрэтны ўчастак работы. І звычайна А.Лукашэнка аддае перавагу чалавеку не самаму дастойнаму, але які б быў вельмі паслухмяны і адданы правіцелю. Хвастоў браў сваёй выключнай працаздольнасцю за ўсе 18 год працы ў міністэрстве. Наш зямляк спачатку закончыў Інстытут замежных моваў, папрацаваў у структурах ААН у Амерыцы і беларускім паслом у Канадзе. Новаму кіраўніку знешнепалітычнага ведамства 51 год, у яго двое дзяцей. Нагадаем, што сёлета экс-міністр сельскай гаспадаркі Іван Шакола, чые карані таксама з Пастаўшчыны, быў рэабілітаваны пасля адстаўкі і перасеў у крэсла прэзідэнта ўплывовага канцэрна "Белдзяржхарчпрам".

## Падачку далі, але цэны падскочылі

Толькі самыя наіўныя маглі паверыць, што аб'яўленая павышэнне заробкаў асобным катэгорыям бюджэтнікаў і пенсій сталым людзям, намнога палепшыць гаротнае жыццё людзей.




Сціплую прыбаўку настаўнікі, медработнікі, бібліятэкары, па-першае, атрымаюць толькі пасля Новага году, а скачок цэнаў на прадукты харчавання ўжо пачаўся.

Першымі павялічыліся на 30-35% цэны на мясапрадукты і каўбасныя вырабы. Мала таго, што цяпер не загружаныя вытворчыя магутнасці Пастаўскага мясакамбіната, каўбаснага цэху райпа і ТАА «Заазёрнае», але і збыту прадукцыі яны не маюць.Зноў "вырасла" цана на гарэлку, нафтапрадукты. На чарзе павышэнне цэнаў на астатняе, бо ўрад скараціў пералік відаў прадукцыі, на якія прымянялася ільготная стаўка падатку на дабаўленую вартасць. З кожным днём патроху расце і курс долара, які з пачатку года па біржаваму курсу павялічыўся ў 3,5 разы.

## Жыццё ў цемры

Ніяк не жадаюць у нас прызнаваць, што беларусы – цёмны народ. Але ж сёння гэта існасць бачна, як кажуць, няўзброеным вокам. Нават у Паставах, за выключэннем цэнтральнай вуліцы Чырвонаармейскай дрэнна асветлены, або наогул патанаюць у цемры мясціны, аддаленыя ад цэнтра. Чым далей ад горада, дык яшчэ большы змрок. У прыватнасці, вёска Дунілавічы за выключэннем тэрыторыі сярэдняй школы зусім не асветленыя. Цямнее зараз рана, а вяскоўцам, дзецям пасля другой змены прыходзіцца асцярожна тупаць дамоў. Самае дзіўнае, што раней ліхтары спраўна свяцілі па начах у розных месцах буйнога мястэчка. Але ў мэтах эканоміі сродкаў паступіла каманда асвятленне спыніць. І што крыўдна, хопіць 15-20 лямпачак на вёску, каб крыху забяспечыць нармальнае жыццё людзям. У астатніх паселішчах Пастаўшчыны, каб клапаціліся пра народ, таксама адшукалі б грошы на арганізацыю вулічнага асвятлення. Для параўнання, суседнія нам Літва і Польшча не толькі ў гарадах, але і ў глыбінцы проста залітыя светам, як і ў цэлым краіны Еўропы.

## Хоць ваду нашу можна піць

Без ужывання звычайнай вады любы чалавек праз пяць сутак загіне. З горам-напапалам, але работнікі "Водаканала" у Паставах са сваёй задачай у прынцыпе спраўляюцца. Больш таго, згодна ацэнкі санэпідслужбы вобласці якасць пітной вады ў райцэнтры адпавядае ўзроўню спажывання вадкасці ў Віцебску, Оршы і Наваполацку. Спецыялісты пастаўскай вадзіцы па хімічнаму складу паставілі адзнаку "добрая". Не было прэтэнзій толькі да чысціні вады ў Докшыцах і Шуміліне. У астатніх месцах Віцебшчыны справы з вадой для спажыўцоў вельмі кепскія. Але і ўспрымаць гэту інфармацыю належыць спакойна. Каб засцерагчыся ад непрыемнасцяў, лепш ваду з кранаў пракіпяціць перад ужываннем. Багатыя краіны пайшлі далей і там акрамя мінеральнай купляюць чыстую ваду ў бутэльках.

*Рубрыку вядзе Уладзімір Шык*

# АПОШНІЯ ПРЫГОННЫЯ ЕЎРОПЫ

***Толькі нервова зацягваюцца самакруткамі аднавяскоўцы, калі 77-гадовы Сцяпан Антонавіч Крамок з вёскі Цвеціна, што месціцца ў адным з маляўнічых куткоў Мёршчыны, расказвае аб сваім дзяцінстве. Падлеткам працаваў ён пастухом-падпаскам у пана Аранскага і зарабляў за сезон сто злотых. Яго вялікая сям'я з дзевяці душ жыла пры панскай сядзібе, разам за год мела даход 900 злотых. Пан штогод за працу даваў яшчэ 200 пудоў жыта, кавалак зямлі пад агарод, карову, не прымушаў працаваць у нядзелю і ў дні рэлігійных святаў. Сродкаў хапала, каб мець штогод 600 пудоў хлеба, прыадзецца-прыабуцца і нават адкласці колькі грошай на іншыя патрэбы...***

*Як і ў іншых заходнебеларускіх сем'ях усё раптам змянілася ў горшы бок з прыходам Саветаў. Прыбыткі людзей, якіх заманілі-загналі ў калгас, ужо ў 1940 годзе ўпалі разоў у дзесяць. Учарашнія парабкі, быццам атрымаўшыя волю, сталі працаваць яшчэ больш і фактычна задарма. І вось ужо амаль шэсць дзесяцігоддзяў працягваюць цягнуць амаль што разваліўшыся калгасны воз.*



## Ціха памірае вёска

Калгасны бесчалавечны лад аўтар гэтых радкоў проста ўзненавідзеў таксама яшчэ ў маленстве. Пачаўся ўжо кастрычнік, сталі адзначацца ноччу досыць вялікія замаразкі. А ў нашым калгасе з назвай "Светлы шлях" ніяк не давалі людзям коней, каб адагнаць барозны і выкапаць бульбу. Неяк пад вечар бацька коніка дамоў прывёў. Мне бацькі загадалі адзецца пацяплей і трымаць ліхтар, каб дарослым былі бачныя ў зямлі клубні. Потым у хаце, калі такім чынам выкапалі некалькі палосак, мама заплакала і так пераконвала мяне добра вучыцца ў школе, каб атрымаць нармальную прафесію і з'ехаць з вёскі, дзе так цяжка маральна і матэрыяльна жыць.

Часта я пра гэты даўні эпізод узгадваю і думаю, што падоб-ныя размовы так ці інакш адбываліся ў многіх калгасных вёс-ках. Ужо тое, што бацькі нашы не жадалі, каб іх дзеці заставаліся на зямлі, гаворыць аб галоўным. Савецка-бальшавіцкая ўлада для сельскай гаспадаркі выбрала найгоршы спосаб існавання і арганізацыі вытворчасці.

Летась і сёлета многія гаспадаркі рэгіёна адзначылі 50-гадовыя даты з дня заснавання калгасаў. Глыбока сімвалічна, што ў суседзяў на Глыбоччыне ў калгасе імя Свярдлова поўнасцю абязлюдзелі ў юбілейны год дзве вёскі Альхімоўшчына і Дзядзюшкі і папоўнілі сумны спіс памёршых вёсак. За пасляваенны час калектыўнага землякарыстання тут наогул не засталося ніводнага працаздольнага палявода. Сярэдні ўзрост трох соцен працаўнікоў гаспадаркі таксама за 50 гадоў. А статыстыка, сабраная ў сельсавеце, дае яшчэ больш страшныя лічбы.

Раней гэта быў буйнейшы калгас Глыбоцкага раёна, які налічваў 33 населеныя пункты. Дык вось там зараз у шасці вёсках дажываюць свой век па адной сям'і. Яшчэ ў адзінаццаці не жывуць, а пакутуюць у адзіноце ад двух да дзесяці паджылых бабулек і зрэдку дзядкоў. Паўсюдна ў нашай вобласці ўбачыш чорныя, закінутыя хаты, а на ўсходзе, дзе саветы правілі 70 гадоў, яшчэ больш страшна. У апошнія гады ў Шаркоўшчынскім і нашым Пастаўскім раёнах ад трэцяй часткі да амаль паловы вёсак практычна абязлюдзелі. У цэлым па Віцебскай вобласці за апошнія 25 гадоў колькасць сельскіх населеных пунктаў зменшылася на чвэрць.

## Чарговы бясслаўны фініш года

Цяперашнія прафесійныя абавязкі прымушаюць мяне размаўляць і цікавіцца ходам спраў на вёсцы з многімі дасведчанымі ў сельскай гаспадарцы спецыялістамі і кіраўнікамі.

Сведчу, ніколі яшчэ настрой гэтых людзей не быў такі змрочна-прыгнечаны. Вытрымліваць цяжар перш за ўсё маральна-псіхалагічных перагрузак становіцца проста невыносна. Менавіта на старшынь, аграномаў і заатэхнікаў спісвае ўлада свае ўласныя ўпушчэнні, памылкі і пралікі.

Стала завядзёнкай, што паўсюдна ў Беларусі старшынь мяняюць, як пальчаткі. Вось на маёй малой радзіме за апошнія два гады ў трэці раз памянялі кіраўніка калгаса "XXV партз'езд". Гаспадарка, некалі атрымаўшая сабе землі яшчэ двух саслабеўшых калгасаў, яшчэ трымалася, пакуль кіраўніцтва апошняга абкама КПБ у асобе цяперашняга пасла ў Расіі У.Грыгор'ева, не навязала ёй будаўніцтва свінакомплекса на 25 тысяч галоў. Цяпер гуляе вецер у многіх пустых памяшканнях комплекса, а калгас апынуўся ў даўгавой яме, ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі.

З пяці соцень калгасаў Віцебшчыны амаль поўнасцю згубілі абаротны капітал больш чатырохсот. Кожны раз не ведаюць, як падрыхтавацца да вясны, як заплаціць людзям за працу. Між тым за 1998-99 гады ў вобласці памянялі 296 старшынь калгасаў з 506, або больш паловы. Летась на працягу года кіраўнікі мяняліся двойчы ў 17 калектывах на вёсцы, але стала яшчэ горш.

Неяк пасля шумных "Дажынак" у Шклове раптам замаўчалі афіцыйныя сродкі інфармацыі. І ўжо сціпла інфармуюць аб прайшоўшым нядаўна сумесным паседжанні прэзідыума Саўміна і калегіі Камітэта дзяржаўнага кантролю. Нават А.Лукашэнка на яго не з'явіўся, але даў толькі пісьмовае распараджэнне пакараць віноўных правальнага заканчэння сельскагаспадарчага года. Канстатавалася на той высокай нарадзе, што сёлета недаатрыманы значны аб'ём прадукцыі, упершыню ў ідэальнае восеньскае надвор'е сарваны аптымальныя тэрміны правядзення ўборкі ўраджаю, засталіся закапанымі ў зямлю вялізныя фінансавыя ўліванні. Толькі чамусьці "чэсны" друк не прывёў ніводнай канкрэтнай лічбы.

На самой справе сорамна, бо поўны правал як у раслінаводстве, так і ў жывёлагадоўлі ў Беларусі. Нават пяці мільёнаў тон збожжа не ўдалося атрымаць пасля ачысткі і асушкі на таках. Краіна зноў вымушана траціць валюту на закуп фуражнага і харчовага зерня. Паліўны крызіс паралізаваў вёску, фактычна нідзе і не правялі восеньскае ворыва. У гарадах ужо пачаліся перабоі з мясам-малаком, бо пагалоўе жывёлы скарацілася на 160 тысяч галоў і яго не ўдалося аднавіць. Зноў імкліва пачала расці запазычанасць па заробках вяскоўцам.

Але ж адкуль узяць грошы, калі ўжо больш 80 працэнтаў калгасаў і саўгасаў, па краіне гэта 2000 гаспадарак, поўнасцю стратныя. Кожная дзесятая з іх настолькі закрэдытаваная і набрала даўгоў, што не зможа разлічыцца за запазычанасці нават усёй сваёй маёмасцю да апошняга цвіка. Жахліва, але 200 калгасаў фактычна – мерцвякі, якія ёсць, бадай, у кожным раёне краіны. Падаецца, што кіраўніцтва дзяржавы проста адцягвае час для прыняцця даўно наспеўшых кардынальных крокаў па змяненню механізма гаспадарання на зямлі. У нейкай ступені адказ на пытанне, што рабіць у такой крытычнай сітуацыі, атрымаў я пасля знаёмства з вопытным і, дарэчы, адзіным у Глыбоцкім раёне кіраўніком-жанчынай на вёсцы Аленай Дзягель.

## Калгасы будучыні не маюць

Гэтую думку, вынесеную ў падзагаловак, выказала мне пад час нашай трохгадзіннай размовы Алена Іосіфаўна, якая ўзначаліла калгас "Перамога" 22 гады назад. Спецыяліст з трыма дыпломамі аб вышэйшай адукацыі, яна стажыравалася ў фермерскіх гаспадарках Галандыі, Германіі, Чэхіі, Польшчы і даўна зразумела, што многае трэба мяняць на вёсцы. У сваім калектыве, дзе спачатку ўсё ішло да развалу, спатрэбілася гадоў дзесяць, каб справы пайшлі на лад.

Памянялі тут усіх спецыялістаў і кладаўшчыкоў, бо кралі. Пазбавіліся рашуча ад п'яніц і гультаёў. Затое апошнім часам не ведаюць тут, каб людзям затрымалі зарплату або несправядліва адзначылі нялёгкую працу людзей. Нават у гэтую восеньскую пару заробкі толькі ў работнікаў фермаў па 60-90 тысяч рублёў у месяц даўно нікога не здзіўляюць. Праўда, каб аддаць заробленае людзям Дзягель прыйшлося дайсці да прэм'ер-міністра. Пасля нядаўняй паездкі ў сталіцу мясцовы малочна-кансервавы камбінат вярнуў частку запазычанасці за малако.

Канешне, у нармальнай эканоміцы не гэтым павінен займацца кіраўнік аграфірмы, дзе як у горадзе, два выхадных у суботу-нядзелю. Я свядома апусціў у папярэднім сказе паняцце "калгас". Па сутнасці "Перамога" – гэта праваобраз самастойных сельгасфірмаў, якія цяпер з'явіліся на базе калгасаў у Чэхіі, Літве. Чым жа гэты калектыў адрозніваецца ад астатніх? Галоўнае, у гаспадарцы Дзягель распрацавалі свае абгрунтаваныя расцэнкі за працу з улікам мясцовай спецыфікі. Няпроста было пераканаць у гэтым мінсельгасхарч, але трэба ведаць характар Алены Іосіфаўны.

Меркавалі чыноўнікі, нікуды без дзяржаўнай апекі яны не дзенуцца. Аднак у "Перамозе" пайшлі на рызыку і выйгралі. Маючы адны з горшых земляў на Глыбоччыне, тут мала ім роўных у раёне па эфектыўнасці гаспадарання. Гаспадарка Дзягель выжывае выключна за кошт уласных сродкаў і нават без крэдытаў штогод купляе па два новыя трактары, абнаўляе абсталяванне фермаў, чаго ў акрузе даўна ніхто не робіць. Самастойнасць, зразумела, выклікае незадавальненне начальства, але не больш. Да чаго прычапіцца, калі надойваюць больш іншых малака на карову,калі на фермах ідэальны паралак. З году ў год лепш за астатніх працуюць з маладняком, над аднаўленнем статку. Кармоў хапае, адных карняплодаў у зіму прыпаслі 800 тон. Чаму ж суседзі не могуць так весці свае справы?

"Таму што адвыклі ды і баяцца, хай не крыўдуюць калегі-мужчыны, - пераконвае мяне Дзягель, - жыць сваім розумам. Прасцей быць проста выканаўцам-прыказчыкам каманд зверху. Ды і ніхто больш мяне не займаецца выхаваннем людзей, каб дапамагчы чалавеку не апусціцца, стаць гаспадаром агульнай уласнасці". За гэтымі словамі, сапраўды, нялёгкая праца ў духоўным плане. Старшыня калгаса глыбока веруючы чалавек, мела запрашэнне ў Рым і ўдастоілася аўдыенцыі ў самога Папы. У гаспадарцы пабудавалі каталіцкую і праваслаўную святыні, адкрылі культурна-рэлігійны цэнтр для дзяцей. Менавіта тут старшыня патрабуе, каб на працу людзі прыходзілі ў чыстым адзенні, паголеныя. Пагутарыць штодня з кожным чалавекам. Кіраўнік не фармальна, а ўсёй душой перажывае і клапоціцца пра кожнага старога і малога і здолела-такі правесці ў сваім калектыве своеасаблівую перабудову.

## Замест эпілога

Адным словам, заўтрашні дзень для "Перамогі" не страшны. Адно толькі турбуе. Тут яшчэ большага здолелі б дабіцца, каб дзяржава перадала людзям сродкі вытворчасці з зямлёю і дала ім поўную свабоду гаспадарання. На жаль, у нас пакуль пануюць іншыя настроі. Замест зямлі і волі трымаюцца за аджыўшую сваё калгасна-саўгасную сістэму. Апошнія на кантыненце прыгонныя хлебаробы патрэбны ўладзе, каб праводзіць быццам дзяржаўную палітыку. На справе лічы, каб прадоўжыць надалей царскія паўнамоцтвы аднаго гаваруна са Шклоўшчыны.

*УЛАДЗІМІР ШЫК*

# ХЛЕБНАЯ "ЦАГЛІНА"



Адзін з першых маіх успамінаў, яшчэ дашкольных – чарга. Прывядзе маці да крамы, будана з дошак, паставіць у чаргу. І млееш у ёй на сонейку, хаця пільняць розныя тагачасныя забавы. Потым, як падвязуць хлеб – маці становіцца замест мяне: атрымлівае тое, што належыць сям'і. Для маладых патлумачу, што гэта не ваенная пара, гэта канец пяцідзесятых, пачатак шасцідзесятых. Але з хлебцам, не ў сталіцах, было цяжкавата. Яшчэ помніцца з той пары, як маці з бабуляй наразалі і насушвалі хлеб бохан за боханам, некалькі вялізных мяхоў. Ужо потым стала зразумелым, што было гэта падчас Карыбскага крызісу, калі свету да вялікай, сусветнай атамнай вайны заставаўся адзін крок. І навучаныя яшчэ нядаўняй мінулай вайной людзі рупліва рыхтаваліся да будучай. Доўга праляжалі гэтыя мяхі на гарышчы, аж пакуль не ўбачылася, што ў бліжэйшым будучым нічога гэтаму свету не пагражае. І ўжо ладным школьнікам сцягваў сухары, каб маці з бабуляй размочвалі іх на корм свіням. Што таксама было не зусім усцешна. Хлеб усё-такі ж, па-першае, а па-другое, тады ўжо былі законы, па якіх за такое выкарыстанне яго можна было атрымаць і штраф. Бывалі ж выпадкі і горшыя.

Толькі цяпер я разумею, як няпроста гэта было бабулі, маці, якіх толькі нядаўна жыццё адарвала ад сваёй гаспадаркі, дзе і хлеб быў свой. І было яго столькі, колькі патрэбна сям'і. Ды і жывёле хапала корму.Пра крамны хлеб жа яны ў вёсцы не ведалі да пачатку пяцідзесятых гадоў, да прыходу калгасаў. Пяклі на кляновым лісці, кожная гаспадыня з сваімі сакрэцікамі. Нават белы на святы выпякалі. З крамнага ведалі толькі нядзельныя баранкі ці пернікі, прывезеныя з кірмашу. Праўда, бацька, прызваны на вайну ў 44-м, адслужыў салдатчыны шэсць гадоў і за гэты час добра такі раскаштаваў усеабдымнай "чарняшкі". Але ўтварыліся калгасы, не стала сваёй зямлі, не стала свайго зерня. Дзе-нідзе гаспадыні яшчэ ўлагоджвалі душу сваім старадаўнім заняткам. На пачатку журналісцкай працы даводзілася зрэдку каштаваць гэтай смакаты. Але даўна ўжо ў вёсцы днём з агнём не адшукаць той печы, дзе б пахла такім хлебам. Пячэй няшмат засталося. А ў тых, што засталіся, агонь паляць больш для сагрэву.

Ну, што ж, загаварыў аб хлебе. Давайце, аб ім і пагаворым. Аб ім мінулым і сённяшнім.

Наколькі расказвалі людзі, якія там жывуць, альбо там пабывалі, на захадзе хлеб адносна дарагі. Але такога значэння як у нас ён не мае і не меў. Магчыма ў вайну? Нядаўна давялося прачытаць у дзённіках Гебельса, як ён радаваўся абурэнню англійскага грамадства з прычыны змяншэння норм выдачы мяса (амерыканцы з завозам падвялі). Але ж то мяса, не хлеб. На нашай жа радзіме і ў вайну, і не ў вайну да хлебца адносіны заўсёды былі асаблівымі. Не тое, што паважлівыя, нават трапяткія. І прычына тут адна, зразумелая. Галоўным прадуктам харчавання ён быў у нас адвеку. Не будзем заглядаць далёка. Чым частавалі салдаты мільянера П'ера Бязухава адпаведна рэалісту Льву Талстому? Сухары, вада, крыху мукі (той жа хлеб) ды крышачку сала. І нічога смачней мільянеру не падалося! Проста было тагачасным інтэндантам, хаця ўсё роўна кралі. Што ж да апошняй вайны, то і на ёй на фронце, а асабліва ў тыле кавалак хлеба быў першым наедкам. Успамінаю і сваю службу. Семідзесятыя гады. Кармілі нас дрэннавата, ды што там – дрэнна. Усё-такі пяхота, салдат у сталоўцы больш тысячы, у дзве змены. Ды і цывільных павараў не было – толькі прадстаўнікі савецкага ўсходу і Каўказа. Але хлеб – гэта святое. За дзень на стол дзесяці чалавекам прыпа-

дала дзевяць боханаў. Раніцою два белага і адзін чорнага, увечары таксама, а ў абед два чорнага і адзін белага. Тут ужо не ўкрадзеш. Як і варанае яйко. Якраз у сярэдзіне маёй службы, дарэчы, яго і ўвялі. Але спачатку хімічылі начальнікі салдацкага харчавання, давалі на стол патэльню са смажанымі, а колькі іх там – як падлічыць. Нехта паскардзіўся і прыйшло ў полк тлумачэнне :" У нядзелю і ў дні святаў два яйкі ў вараным выглядзе".

Ды вернемся да хлеба. На ім трымалася немалая частка савецкай прапаганды і савецкага выхавання не аднаго савецкага пакалення. Успомнім хаця б кавалак хлеба і несалодкі чай на стале ў ленінскім кабінеце, ці галодную непрытомнасць наркома харчавання Цурупы. А блакадныя пайкі Ленінграда! Не помніце, колькі там было грамаў хлеба для працуючага, для непрацуючага? А вучылі ж. Ды і ў вершах чыталі. Прабачце, калі хто ў гэтых радках пачуў хоць кропку іроніі. Было. Быў кавалак хлеба апошнім выратаваннем альбо яго адсутнасць апошняй прыступкай уніз. І не толькі ў лагеры зняволеных, не толькі ў блакадзе, але і па ўсёй нашай неабсяжнай. Ды апошнія гады, нейкія паўтары апошнія дзесяцігоддзі дакументальна паказалі і крышачку іншае. І копіі крамлёўскіх меню часоў грамадзянскай вайны былі надрукаваныя, і фотаздымкі з ленінградскага кандытарскага цэху часоў блакады таксама.

Магчыма, мне падаецца, але гісторыя савецкага грамадства ў многім супадае і з гісторыяй нашага хлеба. Пасля трагедый, голаду грамадзянскай і наступных гадоў (мільёны людзей вымерлі менавіта ад голаду ўжо ў афіцыйна прыстойных 30-х), пасля ваенных і пасляваенных нястач прыйшла адносная роўнадзь ці застой. Канечне, перыядычна ўзнікала пэўная напружанасць і з хлебам. Ды што толькі не станавілася нечакана дэфіцытам у тыя часы! Але ў цэлым усё было нармальна. Хлеб вельмі танны, яго ў дастатку. Прычым, па ўсіх гарадах і вёсках хлеб быў досыць аднолькавай якасці. Звычайная тагачасная "цагліна". Канечне, у Мінску можна было купіць нешта і смачнейшае. Але ўсё-такі гэта было выключэннем, як і славутая літоўская "паланга", якую з падарожжа ў суседнюю рэспубліку прывозілі дадому ў якасці сувеніра. Гэта ўжо потым раскаштаваліся беларусы. І сталі так ахвотна браць караваі чорнага хлеба, што ў літоўскіх крамах для продажу "паланґі" выбралі новую тактыку: толькі позна вечарам, калі адыходзяць усе аўтобусы і цягнікі на Беларусь. Ды гэта так, узгадаванае маё пакаленне на "цаглінах", ды і нашы дзеці таксама. І яшчэ для гэтага часу характэрна тое, што вышэйшыя, багацейшыя слаі грамадства, па крайней меры правінцыйнага, да якіх тады можна было аднесці найперш кіраўнікоў, чыноўнікаў – стасункамі з хлебам не адрозніваліся ад астатніх. Хлеб адзін, ну а да хлеба ўжо кожнаму сваё. Хаця і ў тыя часы цьмяна хадзілі чуткі аб спецыяльных палях, дзе зерне вырошчвалася па дзядоўскіх традыцыях – без хімічных угнаенняў і гербіцыдаў.

Калі б у сённяшнюю сталічную хлебную краму зайшоў вясковец з глыбінкі, ён доўга б дзівіўся. І не толькі разнастайнасцю гатункаў, формы, памераў – у што ператварылася звычная яму цагліна. Але і цэнамі на хлеб. Тут выразна бачна, што ёсць ён і для багатых, і для бедных. Але сталічнае – сталіцы. Услед за дзядзькам вернемся ў ягоную, любую і майму сэрцу правінцыю. І тут апошняе дзесяцігоддзе ўнесла свае карэктывы. Не, "цагліна" па ранейшаму дамінуе. Няшмат дзе паспелі ўстанавіць абсталяванне для вытворчасці падавога хлеба. Узнікалі, але хутка спынялі сваё існаванне прыватныя пякарні. Манапаліст у правінцыі – невялікія мясцовыя хлебазаводы, на якіх , як бы ні хацелася , але асабліва нічога не вырабіш, як правіла запраектаваныя і з'арыентаваныя яны на ўсю тую ж "цагліну". Праўда, час прынёс на кожны з іх свае нюансы. І сёння бохан хлеба ў адным раёне можа вельмі моцна адрознівацца ад такога ж па форме бохана хлеба ў другім раёне. Ведаю, што на адным з хлебзаводаў пекары ледзь не плакалі, калі паступала сюды мука з невялікага прыватнага млынка. Няякасная мука, адпаведна і хлеб. Але што зробіш, калі ўладальнік млынка чалавек настолькі ўплывовы, што можа дазволіць сабе раскошу пастаўляць муку і прымушаць купляць яе. Ёсць і такі прыклад . Пачаставалі мяне хлебам. "Смачна?" "Вельмі. Адкуль так?" "Ды наш, мясцовы." "Не можа быць, такога ў крамах не бывае". "Ну, дык гэта так, у мяне сваячка на хлебазаводзе, дык яна там для сябе…"

Што ж, чалавеку хочацца смачнейшага, тым больш хлеба, бо ён на стале тры разы ў дзень. І павінен калі ўжо не радаваць, не засмучаць. Хрыстос пяццю ячменнымі хлябамі накарміў пяць тысяч чалавек. І зразумела ж мае на ўвазе Евангелле, што ўсім дасталося пароўну і аднолькавага. Ды толькі гэта адвечная мара. Напэўна, і ў часы Хрыста розным быў хлеб надзённы.

Трэба яшчэ зазначыць, што сёння практычна не скормліваецца хлеб жывёле. Так, калі скарынкі. Кошт не той. Праўда, ёсць у правінцыі крамкі, дзе прадаецца ці то не кандыцыйны ці то ўжо стары хлеб. Гэта ўжо для жывёлы. Бяруць і для сябе тыя, каму ўжо не па кішэні звычайны хлеб.

Каб не было так сумна, раскажу аб нядаўнім выпадку, які, відаць, і стаў штуршком для напісання гэтых радкоў. Завітаў у госці дзядзька з роднай вёскі, нават нейкая далёкая радня. Пасядзець, адпачыць пасля кірмашу. Разгаварыліся аб хлебе. Ён і зазначае : " А я і цяпер зрэдзь часу пяку ў печы. Мая гаспадыня лянуецца. А я не-не, ды і выпеку". Я спачатку не паверыў, , а дзядзька так красамоўна расказваў. А праз нейкі час завёз пакаштаваць свайго вырабу. Смачна. Але, аказваецца, на такі хлеб патрэбна мука не з кожнага гатунку жыта, толькі з пэўнага. Да таго сыраватка і іншыя сакрэтыкі. Але ж ёсць, ёсць у некаторых печах той дух, якім павінна была славіцца раней любая хата.

Напэўна, вельмі даўна, але ўжо пры савецкай уладзе, нехта першы вобразна назваў стандартны для нашых часоў бохан хлеба "цаглінай". Я, напрыклад, не бачыў ў гэтым нічога зняважлівага. З цаглін будуецца дом, аснова. Так і хлеб для нас застанецца асновай. На аглядны час па крайняй меры.

***Алесь Касцень***

# НАМ ТАК ПАТРЭБЕН БЕЛАРУСКІ КАШТУНІЦА

## ФАКТ

***"Прэзідэнцкія выбары мусяць адбыцца не пазней за 27 верасня 2001 года. Цяперашні прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын не зможа балатавацца на выбарах прэзідэнта Беларусі. Пра гэта заявіла ягоная цёзка па прозвішчы Лідзія Ярмошына, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі. Паводле Канстытуцыі 1996 года, прэзідэнтам можа стаць толькі грамадзянін Рэспублікі Беларусь па нараджэнні.»***

***З паведамленняў прэсы.***

## КАМЕНТАРЫЙ

Такім чынам можна канстатаваць, што дадзены рэальны старт важнейшай кампаніі не толькі наступнага года, але і для лёсу кожнага беларуса, як і ўсёй нашай краіны ў новым тысячагоддзі. Наўрад ці падобнае смелае выказванне магла б сабе дазволіць кіраўнік выбаркама, не атрымаўшы на тое дазвол з галоўнага начальніцкага кабінета ў сталічным "чырвоным доме". Неверагодна, сам Аляксандр Рыгоравіч адвёў усялякія ілюзіі наконт перспектыў ураджэнца Разаншчыны У. Ярмошына. Няхай кіраўнік ураду, без якога "бацька", хваліўся, можа абысціся, ведае сваё месца. А вось, хто зможа саставіць канкурэнцыю беларускаму лідэру, прымусіць таго сысці на пенсію, а то і адказаць за шматлікія вольнасці, злоўжыванні абсалютнай уладай, няўхільна становіцца тэмай № 1 у краіне.

За пару дзён да згаданай прэс-канферэнцыі з аналагічнай заявай аб сваім удзеле ў барацьбе за прэзідэнцкае крэсла выступіў у Мінску былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Сумленны чалавек, прафесіянал вышэйшай пробы заявіў аб сваіх непахісных намерах змагацца да канца, нават калі яго кандыдатуру не падтрымае аб'яднаная апазіцыя. Але сам Міхаіл цудоўна ўсведамляе, наколькі шаткая ў яго пазіцыя. Яго ў любы момант могуць выключыць з перадвыбарчай барацьбы, паколькі заведзена крымінальная справа, хоць і шытая белымі ніткамі.

Сёння вядома, што намераны з'явіцца ў краіне непраходны Зянон Пазьняк. Не разумее Зянон Станіслававіч, што час ягоны прайшоў, а тав.Лукашэнка такі сапернік нават падмога. Не пераможа, а галасоў у праціўнікаў прэзідэнта адбярэ значна. Што датычыцца яшчэ ранейшых заяў аб намерах стаць прэзідэнтам Сяргея Гайдукевіча, яны нічога сур'ёзнага не ўяўляюць. Цікава, што нават зараз усемагутны беларускі ўладар пачынае разумець усю сур'ёзнасць галоўнага экзамена і для сябе.

Чым запомнілася для нас амаль сем гадоў ягонай неабмежаванай улады? Перш за ўсё няспынным ростам цэн і падзеннем ўзроўня жыцця насельніцтва. Селектарнымі нарадамі, шматгадзіннымі выступамі па радыётэлебачанню, паездкамі па расійскіх да Пуціна прасторах і паказушнымі візітамі ў рэгіёны краіны. Пастаянна, як дрэннаму танцору, "бацьку" замінлі. Пагрозы Дзікаму Захаду, арышты, знікненне людзей, драздоўскае высяленне паслоў, збітыя паветраныя шары і шмат чаго іншага са знакамі "мінус". Як ні круці, а лепш большасць жыць не стала.



Таму, не падаючы выгляду, пачаў баяцца "усенароднаабраны" за свой лёс. Бачыш ты, як раптам загаварыў : "... Мы будем жить и никуда не уедем. Нам некуда уезжать. Никто из них (опонентов) просто так к власти не придёт, их могут только привести или из Запада, или с Востока". Здзіўляе, што адчуў бацька небяспеку з боку так мілай ягонаму сэрцу матулі- Расіі. А вось з'ехаць ёсць куды. Няхай сабе ў родны Шклоў, які адмалявалі – аднавілі за дзесяткі мільёнаў даляраў. Вярнуцца ў свой саўгас да пакінутай жонкі, або заняцца прыватным прадпрымальніцтвам, пра што неяк сказануў на адной з нарад.

Зрэшты, гэта не нашы праблемы. Важней за ўсё знайсці, падтрымаць дастойнага і перамагчы беларускага інтэграста. І такія людзі, якіх зразумее і падтрымае народ, у нашай краіне ёсць. Сёння пакуль рана называць імёны кандыдатаў. Ясна, што шукаць іх трэба не сярод апазіцыйных палітыкаў, але прадстаўнікоў "трэцяга" сектара. Калі заявіць аб сабе такі чалавек, застанецца бацька ў адзіноце, або з кучкай найбольш адданых сваіх паплечнікаў.

Гавораць, што палітыка – гэта мастацтва магчымага. Нядаўнія гарачыя югаслаўскія падзеі яскрава паказалі, што пакуль аддалена, але магчымая перспектыва лепшых пераменаў для Беларусі. Заўважана, што ўжо некалькі гадоў назад надакучыў беларускі правіцель нават жыхарам глыбінкі. Гэта добры знак. Усе чакаюць з'яўлення пераемніка бацькі. Неўзабаве будзе ясна, як прадуктыўна выкарысталі час зімовай спячкі апазіцыйныя, інтэлектуальныя, прафсаюзныя і ўсе проста разумныя сілы, ці здолеюць яны дамовіцца стварыць аб'яднанае ядро, якое здольна будзе спыніць дыктатуру і павярнуць Беларусь на нармальны шлях развіцця. І тады лозунг "Лука, адпраўляйся ўслед за Слабаданам" можа стаць шчаслівай рэчаіснасцю. Мяркую, што ў такім варыянце развіцця падзей будзе зацікаўлены і Пуцін, які ўжо амаль год трымае шклоўскага выскачку на адлегласці. Але рашаючае слова скажа наш народ.

***Язэп Бізунчык***

# АД ТАКІХ "ПОСПЕХАЎ" РОБІЦЦА СМЕШНА

Як пустазелле ў нядбайнага гаспадара, на старонках "чэсных" дзяржаўных газет, у радыё і тэлепраграмах проста расквітнела фальш ледзь не на кожным кроку. Не апошнюю скрыпку ў гэтым дружным хоры, які адурманьвае насельніцтва, адыгрывае і самая папулярная газета ў нашай мясцовасці – "Пастаўскі край". Хоць здараецца ў гэтым выданні зрэдку слова праўды, агульны тон публікацый настрайвае чытачоў, што ў нас усё нармальна. Ідзём правільным курсам, а ў Беларусі ёсць светлая будучыня.

Вось і напярэдадні нядаўніх выбараў у так званую палату прадстаўнікоў змясціла раёнка актуальнае інтэрв'ю. У ім новапрызначаны кіраўнік раёна Ванда Януковіч у стылі Кашпіроўскага-Чумака ахарактэрызавала цяперашнюю сацыяльна-эканамічную абстаноўку на Пастаўшчыне, цытуем, як "стабільную". Як тыя папугайчыкі, падхапілі гэта слова на ўсіх узроўнях уладнай піраміды і без перапынку ўжываюць з любой нагоды. У пацверджанне сваёй думкі таварыш Януковіч гаворыць нам далей:"Працуюць усе прамысловыя прадпрыемствы... На вёсцы паспяхова завяршаецца сельскагаспадарчы год."

Але ж літаральна за тыдзень да гутаркі з рэдактарам Фаінай Касаткінай прачыталі мы ў "Пастаўскім краі" што "Завяршэнне сельскагаспадарчага года ў раёне ідзе крайне нездавальняюча". Паспрабуй разбярыся, што гэта азначае крайне і яшчэ нездавальняюча. Выходзіць на кол з мінусам, або зусім усё валіцца з рук. Па традыцыі названы вінаватыя : безадказныя адносіны да справы кіраўнікоў на месцах і спецыялістаў райсельгасхарчу". І вопытны начальнік ставіць канчатковы дыягназ, што нават у ідэальнае надвор'е на працягу 10 дзён "не было належнай арганізаванасці, у выніку палявыя работы вяліся неапраўдана марудна".

Вось дык адкрыццё. А калі яны ў калгаснай вёсцы не вяліся праз пень-калоду. Нездарма ж з'явілася прымаўка:"У калгасе добра жыць – адзін робіць, сем ляжыць". Але вернемся да нашай грэшнай зямелькі. Неяк ніякавата было ў той жа газеце чытаць 4 кастрычніка, што "большасць гаспадарак толькі днямі (на трэці месяц жніва – рэд."Сумежжа") завяршылі ўборку збожжавых, а ў саўгасе "Варапаева" не справіліся з работай і па сённяшні дзень". І далей паведамляецца пра нізкія намалоты, невыкананне дзяржзаказу па пастаўцы збожжа на хлебапрыёмнае прадпрыемства, пра тое, што зноў цытуем "Пастаўскі край", "... не хапіла нават месяца, каб завяршыць уборку бульбы на невялікіх плошчах і пры невысокай ураджайнасці".

Дзіўныя адкрыцці чакалі пастаўчан і надалей. Ведаючы пра "поспехі" на вёсцы, заставалася толькі паціскаць плячыма, прачытаўшы ў райгазеце ў нумары за 18 кастрычніка пра дасягненні жывёлаводаў. Вынікі і тут незайздросныя. Чытаем:"За дзевяць месяцаў валавая вытворчасць малака і мяса да ўзроўню папярэдняга года склала адпаведна 94 і 83 %... Спадзяванні на пашавы перыяд, асабліва ў сярэдзіне лета не спраўдзілася ў многім...у цэлым па раёне ў летні перыяд былі недабраны сотні тон прадукцыі, гаспадаркі недаатрымалі вялікія грашовыя сродкі".

І нарэшце самая свежая інфармацыя, якая пацвярджае, што ў тупік загнана і пастаўская калгасная вёска. Газета 15 лістапада змяшчае трывожную інфармацыю. Аказваецца, і сёлета "не па часе зацягнуліся работы на льняных палетках...не захоўвалі тэхналогію вырошчвання ільну, не арганізавалі як трэба догляд пасеваў. У выніку з 2100 гектараў прыдатным для цераблення даўгунец аказаўся на 1850, і то да яго ўборкі ў большасці гаспадарак прыступілі толькі ў другой палове жніўня... па стану на 13 лістапада траста ў полі заставалася яшчэ амаль на 400 гектарах".

Вось такім чынам дасягаецца ў нас славутая "продовольственная безопасность". Паверылі мы раённаму кіраўніку, што хоць прамыслоўцы нашы на вышыні. Але дзе там. 25 кастрычніка нам паведамілі, што ўжо пяты месяц прастойвае кансервавы завод, хоць "ёсць яшчэ неперапрацаваная мінулагодняя прадукцыя". Кепскія справы і змрочныя перспектывы ў многіх. Новы намеснік старшыні раённай "вертыкалі" Мікалай Коваль паведаміў пра ледзь не суцэльныя прастоі завода жалезабетонных вырабаў у Варапаеве, цяжкасці са сбытам і дрэнную якасць мэблі ДАКа, падзенне аб'ёмаў вытворчасці на шклозаводзе "Гута", мясакамбінаце, ільнозаводзе, малаказаводзе, залежы прадукцыі на заводзе вучэбнага абсталявання, Лынтупскім спіртзаводзе.

Адначасова сказалі людзям сумленна, што "больш 60% суб'ектаў гаспадарання пастаянна не забяспечваюць рост рэалізацыі платных паслуг (адкуль грошы ў абяднеўшых людзей) ... незайздроснае фінансавае становішча шэрагу калектываў прывяло да значнай запазычанасці перад бюджэтам. "Адным словам, куды ні кінь – паўсюдна клін. Наўрад ці не валодае становішчам спраў на Пастаўшчыне раённае кіраўніцтва. Хутчэй за ўсё па старой завядзёнцы лічаць нас за нейкіх неразумных істот, якім можна вешаць на вушы, прабачце за такое параўнанне, любую лапшу. Разлік на тое, што ў цуды беларускай эканомікі і мудрасць галоўнага рулявога краіны нехта і паверыць.

***Ф.М., чытач многіх газет, жыхар г.Паставы***

***P.S.*** *Але "Сумежжа" вырашыла рэгулярна раскрываць падобныя хітрыкі, аналізаваць і паказваць усю бязглуздасць і прымітывізм дзяржаўнай хлусні. Некаторыя землякі як агня баяцца вольнага слова і радуюцца за свайго прэзідэнта, чытаючы пра поспехі і дасягненні ў "бацькавых" СМІ. Толькі пасля азнаямлення з такімі асобнымі тэкстамі разбірае смех з сумам у душы.*

## АСЦЯРОЖНА: ЛАПША

# *Анатоль Собаль:* "няма межаў прыгажосці даўнішнай музыкі"

***Анатоль Собаль. 49 гадоў. Дырэктар Пастаўскай дзіцячай школы мастацтваў. З маленства захапіўся ігрой на музычных інструментах. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класу баяна. З 1971 года нязменна працуе ў дзіцячай музычнай школе ў Паставах. Па яго ініцыятыве тут у 1986 годзе ўпершыню ў Беларусі ў вучэбную праграму ўводзіцца курс народнай музыкі краю і арганізоўваецца дзіцячы фальклорны ансамбль, у якім цудоўна гучаць народныя скрыпкі, цымбалы, гармонік, дудка, жалейка. У лютым 1991 года дарослы цымбальны аркестр пад яго кіраўніцтвам рэарганізаваны ў народны ансамбль – капэлу "Паазер`е", які неаднаразова станавіўся лаўрэатам абласных, рэспубліканскіх і міжнародных музычных конкурсаў і фестываляў.***

Гэты калектыў па свайму творчаму напрамку, па ацэнцы музыкаведаў, унікальны, непадобны на іншыя. Аснова ансамбля – дыятанічныя цымбалы, зробленыя ў 1977 годзе народным майстрам з вёскі Груздава Восіпам Новікам. У адроджаных традыцыях інструментальнага народнага фальклору ў выкананні музыкантаў "Паазер"я" гучаць скрыпкі, гармонікі, кантрабас, бубен, шумёлы, вугольнік. Мелодыі запісаны ў лепшых народных музыкаў, апрацаваны ў рэчышчы лепшай музычнай культуры нашага краю. За час свайго існавання ансамбль "Паазер`е" падрыхтаваў некалькі канцэртных праграм, акрамя розных куткоў Беларусі даў звыш 200 канцэртаў у Польшчы, Расіі, Югаславіі, Малдове, Эстоніі, ва Украіне, у Латвіі і Літве.

**-Анатоль Анатолевіч, а ў дзяцінстве Вы музыкантам стаць марылі ?**

-Быў я маленькім хлапчуком, калі мой дзед неяк паабяцаў зрабіць мне балалайку. Памятаю браў у руку простую дошку і ўяўляў, што быццам іграю на нейкім гармоніку. Мама ўзгадвала, што той карапуз садзіўся, закінуўшы нага на нагу, капіруючы дарослых і пад язык заводзіў нейкія мелодыі. Цікава, што не толькі ў сям'і, але і сярод радні ніколі не было музыкантаў. Праўда, бацькі мае мелі музычны слых і добры голас, цудоўна спявалі.

Не было ў мяне большай радасці, калі мой дзядзька, тады студэнт універсітэта, прывёз з Мінску першы невялічкі гармонік. І паставіў мне задачу навучыцца іграць да яго-нага вяселля "польку". Ніхто мяне не вучыў, сам я навучыўся і ўжо на тым вяселлі выканаў некалькі мелодый, якія чуў ад вясковых гарманістаў і цымбалістаў. Як пайшоў вучыцца ў школу, бацька па маёй просьбе купіў мне акардэон невялічкі. З трэцяга класа іграў ужо на сцэне. Калі спачатку ніхто ўсур'ёз гэта мае захапленне не ўспрымаў, то асноўны штуршок, каб я пайшоў па музыцы ў жыцці, зрабіла мая настаўніца Алена Ігнацеўна Казлоўская. Цудоўны педагог, музычны чалавек, яна стварыла ў вясковай школе хор. Ездзілі мы па ваколіцах, давалі канцэрты, а ў клубах заўсёды было шмат народу. Зразумела, потым не было для мяне іншай дарогі, як у музычную школу, а затым у музвучылішча.

**-Напэўна, важкі след у Вашым жыцці пакінуў удзел у канцэртнай дзейнасці славутага аркестра груздаўскіх музыкаў ?**

-Гэта было значна пазней. Першае знаёмства з гэтым калектывам, заняўшым сваё адметнае месца ў развіцці музычнай культуры Беларусі, адбылося ў мяне ў пятнаццацігадовым узросце, калі пачаў спробы выконваць напісаныя кампазітарамі партыі. Але сапраўднае супрацоўніцтва пачалося пасля вучобы, службы два гады ў войску, калі вярнуўся працаваць выкладчыкам роднай музычнай школы. Пазнаёміўся са старэйшымі выканаўцамі, выдатным народным скрыпачом Пятром Рагіням і мастацкім кіраўніком Якавам Нікіціным. Разам з імі ў сталым узросце вызначаліся тэхнічнай выразнасцю і эмацыянальнай натхнёнасцю гарманіст Уладзімір Крывенькі, цымбаліст Рамбальскі, скрыпач Мелец і іншыя, якіх вельмі паважалі ў народзе. На той момант у Беларусі акрэслілася ўзросшая цікавасць да першавытокаў нацыянальнай музычнай спадчыны. Перад тым, як пайсці на адпачынак, той жа Рагіня настойліва заклікаў і раіў мне сур'ёзна заняцца дыятанічнымі цымбаламі. Ён клапаціўся, каб пасля іх адыходу з жыцця, было каму прадоўжыць справу старэйшых музыкантаў.

**-Прабачце, а якая розніца тых дыятанічных цымбалаў ад звычайных фабрычных ?**

-Адрозненне, што гэта інструменты груздаўскія, на якіх ігралі здаўна народныя музыканты-універсалы. Яны іх самі зрабілі, нідзе больш у свеце аналагаў няма, толькі ў гэтай мясцовасці. Зрэшты, мала хто ведае, што цымбалы – сусветна вядомы інструмент, які ёсць у Кітаі, Японіі і на Сінгапуры, у Сярэдняй Азіі, шмат разнавіднасцяў у Еўропе. Гэта вельмі старажытны інструмент, як дудачка ці ўдарныя. Мы былі нядаўна на Сусветным кангрэсе цымбалістаў і проста ўражаныя найвышэйшым узроўнем выканальніцкага майстэрства цымбалістаў з Кітая, якія на дзве галавы пераўзыходзяць нашых прафесійных артыстаў. Інструменты, з якімі мы выступаем, зрабілі народныя майстры па свайму розуму і здольнасцям. Зрэшты, у нашым краі скрыпка і цымбалы былі асноўныя інструменты. У кожнай вёсцы былі абавязкова свае музыкі, без іх не абыходзілася ніводная вечарына , не гаворачы пра іншыя больш важныя падзеі. Мая задача, як маладога музыканта, была не сапсаваць і не згубіць тое, што назапасіла музычная культура краю.

**-Гэтым тлумачыцца з'яўленне затым разам з выкладчыкамі пастаўскай музычнай школы фальклорнага ансамбля "Паазер`е" ?**

-Цікавасць да музыкаў з вёскі Груздава заўсёды была вялікая. Іх падтрымлівалі, дапамагалі. Каб прадоўжыць справу, пачалі з таго, што дзяцей студыі ігры на цымбалах ў вёсцы знялі з серыйных фабрычных і пачалі разам з памочніцай Зояй Крывенька, дачкой знакамітага гарманіста, вучыць іграць на мяс-




А.Собаль злева (з гармонікам) пад час адкрыцця фестываля

цовых. Зацікавіліся нашым пачынаннем у цяперашняй Акадэміі музыкі, універстітэце культуры ў Мінску. Выйшаў цэлы цыкл тэлеперадач "І загучаць галасы цудоўныя", адна з чатырох нават прайшла па цэнтральнаму тэлебачанню. Паступова, калі я стаў завучам музычнай школы, у вучэбную праграму неяк арганічна ўвайшла народная музыка, а выкладчыкам нічога не засталося, як абагульніць накоплены вопыт, стварыўшы музычны ансамбль.

**-Даводзілася чуць, што Ваша "Паазер`е" называюць дзейнічаючай школай-лабараторыяй музыкі, у якой справу сваіх бацькоў і дзядоў працягваюць іх родныя і блізкія ?**

-Так, у нас працуе дачка груздаўскага цымбаліста Ванда Мацкевіч і вучыць іграць на цымбалах, як некалі яе бацька. "Паазер`е" арганізавалася пасля таго, як за нейкія тры гады пайшлі з жыцця старэйшыя ўдзельнікі ансамбля, які даў сваё першае выступленне ў сакавіку 1940 года. Пры іх жыцці мы, выкладчыкі, былі стварыўшы маладзёжны калектыў, запісалі іх музыку. Быў створаны 20-ці хвілінны дакументальны фільм Беларускай студыі. Нейкі час мы выступалі разам, хоць шкадую, што мала сумесна пайгралі. У нашым калектыве, сапраўды, выступаюць яшчэ прадстаўнікі роду Пяткевічаў, Рагіняў. Дзякуючы навукоўцам, нас празвалі школай-лабараторыяй. У выдавецтве "Беларуская навука" у 1997 годзе выйшла нават цэлая кніга "Народная інструментальная культура беларускага Паазер`я". У нашым калектыве складваюцца нават сямейныя дынастыі. У прыватнасці тут іграюць унучка і ўнук вядомага цымбаліста Мацкевіча, а таксама мой брат Аляксандр, дачка Алена з мужам. Мы іграем не за грошы, а толькі за апладысменты.

**-Атрымоўваецца, у асяроддзі роднай музыкі зусім іншыя норавы ў параўнанні са сферай шоў-бізнеса, дзе шмат бруду ?**

-Ніякага параўнання. Мы збіраемся і выступаем для душы, а на эстрадзе правяць баль грошы і канкурэнцыя. "Зоркі" адзін аднаго топяць, балюча ўспрымаюць нечыя поспехі і высокія ганарары. У нас гэтага няма. Наогул я вельмі ўдзячны сваім сябрам за разуменне і падтрымку, што ахвяруюць свой час на рэпетыцыі і выступленні, працяглыя паездкі.

**-Акрамя, не сакрэт, недастатковага фінансавання, якія праблемы ў Вашай школе мастацтваў на сённяшні момант?**

-Праблем хапае. Адна з іх – падтрымліваць калектыў на тым высокім узроўні, не таптацца на месцы. У любой новай аўдыторыі нашы выступленні цудоўна ўспрымаюць гледачы. Але паўстае задача пашырэння рэпертуара. Тое, што было назапашана раней, намі ўжо адпрацавана. Гэта наш залаты скарб. Думаю, дзе і як адшукаць невядомую старадаўнюю музыку нашага краю. У любым выпадку іграць і спяваць гора-шлягеры, тыпа "Чарка на пасашок" мы не будзем.

**-Як прафесіянала, Вас не турбуе, што сёлета на Віцебшчыне найменшы конкурс, нават менш аднаго чалавека на месца, быў менавіта ў музычным вучылішчы абласнога цэнтра?**

-Гэта трывожная з'ява, якая, на маю думку, можа пашырыцца надалей. Рэзка, на жаль, пайшоў на спад прэстыж прафесіі музыканта. Музыкі застаюцца незапатрабаванымі. Што атрымоўвае педагог музычнай школы ці той жа настаўнік? Адзін са спецыялістаў у галіне музыкі са сталіцы нават неяк даводзіў мне ў размове, што музычная эліта і ўзровень прафесійнай музыкі не надта пацерпяць, калі на месцах рухнуць нашы музычныя школы. Застанецца музычны ліцэй, спецшколы пры Акадэміі музыкі, якія ў поўнай меры забяспечаць узровень выканаўчага майстэрства студэнтаў кансерваторыі. З жахам думаю, што будзе з намі, калі падымуць плату за месячнае навучанне да 10-15 тысяч рублёў? Колькі тых бацькоў вытрымаюць гэта? З сённяшніх 280 навучэнцаў ці застанецца хоць бы чалавек сорак. Шкада, што здольныя дзеці – нашы выпускнікі не ідуць вучыцца далей музыцы. Гэта адзін з паказчыкаў незайздроснага стану культуры, выкліканага станам духоўнасці грамадства і хібаў у эканоміцы.

**-У такім выпадку можа нам менш і не так часта і густа праводзіць тузіну розных фестываляў і конкурсаў?**

-Сапраўды, гэта разумна. Даўно лічыў, што не варта кожны год праводзіць "Славянскі базар у Віцебску", або міжнародны фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік" у нашым горадзе. Гэту думку падзяляюць і многія мае калегі. Апошнія гады гэтыя музычныя фэсты пачалі таптацца на месцы, асабліва пастаўскі фестываль. Мала новых імён адкрыццяў. Лепш іх было б праводзіць раз у два гады.

**-І ў заключэнне, Анатоль Анатольевіч, ці верыце Вы, што ў новым тысячагоддзі беларускі народны інструментальны фальклор захаваецца, увабраўшы ў сябе пераемнасць старых традыцый і новаэстэтычныя ідэалы ?**

-Дзе б наш калектыў апошнім часам не выступаў, а толькі ў Літве тройчы давалі вялікія канцэрты, усюды адчувалі шчыры інтарэс і захапленне музыкай заходняга Паазер'я. Паверце, нашы суседзі ведаюць толк у сапраўдным мастацтве. Мы даём заўсёды выступленні ў дзвюх аддзяленнях у асноўным на мясцовым рэпертуары. Пройдуць гады і гэта музыка ў сучаснай аранжыроўцы стане аўтэнтычным фальклорам, як і музыка папярэднікаў. Упэўнены, па-ранейшаму яшчэ доўга будуць радаваць людзей ансамблі "даўнішняй музыкі", самымі любімымі застануцца беларускія полькі, маршы, вальсы, песні мінулых гадоў.

*Гутарыў Уладзімір Шык.*

# ВЯСКОВЫЯ ГІСТОРЫІ

## У Вільні

Зазірнуў у Нырцы да дзядзькі Пётры пляменнік Віцька, сын брата-нябожчыка. На сваёй шыкоўнай машыне, з новай жонкай. "Відаць, яе падбіраў пад колер машыны, бо валасы ў маладзіцы таксама ледзь не белыя, бліскучыя", - падумаў дзязька. Аліна сабрала на стол. Ну а за сталом зайшла размова аб тым, чым жа займаецца цяпер пляменнік, як жыве. Жыве добра і першай сям'і дапамагае. Ну а занятак? Бізнес як і ў людзей. Захацелася дзядзьку даведацца падрабязней, які ж гэта такі бізнес Брат жа, як і дзядзька, адпрацаваў механізатарам. Аджартаваўся пляменнік раз, другі. А потым і кажа:

-,А вось хочаш, пакажу свой бізнес, зважу цябе ў Літву. Заўтра раніцой і заеду. Для мяне паўсотні вёрст не крук.

- І звазі!

- Якая Літва, - узнялася Аліна, - якая Літва, стары: табе гной з хлява вазіць.

- Гной пачакае, цётка, а пенсіянеру ў Літву праезд свабодны. Зважу.

- Еду! - цвёрда сказаў дзядзька. - Колька гадоў там не быў. Пагляджу, да Вострай Брамы схаджу.

- Ды ў цябе ж і грошай іхніх няма, стары.

- Не трэба грошай. І звозім, і пакормім, і напоім.

- Во-во, яму гэта толькі і трэба. Ну, глядзі, адна я з гноем цягацца не буду.

Але дамовіліся.

Раней, едучы ў Вільню цягнікам ці аўтобусам, дзядзька і мяжы той літоўскай не заўважаў. Праўда, на аўтобусе адчувалася, што дарогі сталі лепшымі. Цяпер жа давялося два разы Пётру вылазіць з машыны, два разы аглядалі іх людзі ў пагонах і з кукардамі на шапках. Кукарды былі розныя, а вось вочы ў службоўцаў аднолькавыя - калючыя. Пляменнік і два яго спадарожнікі трымаліся свабодна, жартавалі. Адзядзьку было ніякавата. Віцька перад мяжой у яго запытаўся, ці вязе што ў сумцы. "Паснедаць і бутэльку". "Адну можна, дзядзька". Але ўсё роўна, калі пароплі службоўцы з кукардамі яго сумку, адвярнуўся Пётра.

Перад Вільняй паснедалі. "Не хочаш, дзядзька, за куст?" "Ды не, не хачу." «Нў, глядзі.» У Вільйі на аўтамабільным кірмашы - дзядзька ў жыцці не бачыў столькі легкавікоў адразу -знайшлі месца ,на стаянцы. Пляменнік папрасіў запомніць і месца, і машыну. "Мы тут па справах пойдзем гадзны на паўтары. Ты пагуляй, але сюды вяртайся. Вось табе іхнія літы і дробязь. Піва папі ці яшчэ што. Не згубішся?" "Што я, малы які ці баба вясковая?"

Купіў піва, моўчкі падаў прадаўцу незнаёмую асігнацыю, атрымаў рэшту. Пахадзіў па кірмашы. І тут



неяк раптам занямоглася дзядзьку, захацелася - і ўсё тут. Вакол усе гаманілі па-руску, таму дзядзька смела запытаўся аб прыбіральні. Паказалі. Ды толька ён прыспешыў у патрэбныя дзверы, ветлівы малады чалавек папярэдзіў, што паслуга платная, і паказаў на цану. Прыкінуў дзядзька. Ды гэта ж столькі і яшчэ столькі -зноў можна піва папіць. А каб яно згарэла, лепш ужо да ветру.

Злавілі яго за нейкім ангарам, ля самай агароджы. Двое з чорнымі палкамі і з кукардамі на шапках. Спачатку дзядзька спрабаваў праацца, што ён не тутэйшы, слаба разумее, дзе што. Не дапамагло. Потым гаварыу пра пляменніка і яго сяброў. Ніякай увагі. Давялося вываpочваць кішэні і аддаць усё, што ахвяраваў Віцька. Аддаючы, дзядзька ўззлаваўся і сказануў так, як часам на сваю наравістую кабылу. Ды тут жа чорная палка шчыльна прытуліпася да яго сухога азадка. Каб яно ўсё спрахла, думаў ён, ідучы да машыны. "Папіў піва?" "Папіў. Смачна". "Паедзем да Вострай Брамы?" "Ды не, не, дадому!" Спадарожнікаў у машыне ўжо не было, і таму Пётра расказаў Віцьку пра здарэнне. Той пасмяяўся.

У дарозе яму не сядзелася. Толькі ўжо калі прамінулі мяжу з новымі выхадамі з машыны, дзядзька Пётра прыдрамаў. А дома нароспыты Аліны аб Вострай Браме толькі бурчэў: "Ну стаіць сабе і стаіць. На тым жа месцы, дзе і стаяла. А ўнутро я не заходзіў, зачынена было".

***Алесь Касцень***

**Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны**

Рэдактар: **Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84.
E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 299 асобнікаў.
Надрукавана на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» г. Наваполацк.